# Тыднёвік Магілёўскі




№ 23 (87) 16 - 22 чэрвеня 2000 г. Кошт 50 руб.


## Што могуць журналісты...



***Два дні ў Магілёве журналісты недзяржаўнай прэсы абмяркоўвалі на сэмінары канцэпцыю свайго прафэсійнага ўдзелу ў маючых адбыцца ўвосень парлямэнцкіх выбарах.***

*Пры дапамозе беларуска-нямецкага адукацыйнага Фонду імя Эбэрта рада Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) і Цэнтар прававой абароны СМІ пад кіраўніцтвам доктара юрыдычных навук Міхаіла Пастухова наладзілі цыкль гэтых тэматычных дыскусіяў з мэтай кансалідацыі і падвышэньня прафэсыйнага ўзроўню рэгіянальных недзяржаўных выданьняў і журналістаў. Пасьля Берасьця, Віцебску і Гомлі сэмінар быў прыняты ў Магілёве гарадзкой арганізацыяй БАЖ, якую ўзначальвае Сяргей Шышкін.*

*Бачаньнем палітычнай сытуацыі ў краіне і, у гэтай сувязі, сваім разуменьнем ролі і адказнасьці СМІ падчас выбарчай кампаніі падзяліліся зь мясцовымі калегамі прэзыдэнт БАЖ Ж.Літвіна, віцэ-прэзыдэнт А.Гуляеў, а таксама М.Пастухоў, вядомыя юрысты Ю.Тапарашаў, А.Бастунец, палітоляг С.Альфэр, рэдактар "ТМ" Г.Суднік. Цягам дыскусіі журналісты, якія прадстаўлялі абласны цэнтар і палову рэгіёнаў Магілёўшчыны, мелі магчымасьць абмяняцца думкамі, выказаць свае меркаваньні, задаць пытаньні, прыняць удзел у дзелавой гульні, што патрабавала веданьня заканадаўства.*

*У выніку сэмінара больш выразна акрэсьліліся праблемы, якія журналістам трэба будзе вырашыць для сябе падчас восеньскіх выбараў. Яны, гэтыя праблемы, у тым, каб у часе найбольш вострага палітычнага процістаяньня ў грамадзтве, якім суправаджаюцца выбары, захаваць аб'ектыўнасьць, прыстойнасьць і сумленнасьць у асьвятленьні ўсіх этапаў выбарчай кампаніі. Гэта ня будзе лёгкім яшчэ й таму, што беларуская ўлада, якая намагаецца дамагчыся легітымізацыі ў вачах дэмакратычнай міжнароднай супольнасьці, мае намер правесьці выбары паводле недасканалага Кодэксу, а таксама пад жорсткім кантролем з боку выканаўчай улады – з мэтай пераўтварэньня "свабоднага волевыяўленьня народа" у дэмакратычны фарс "адзінадушнай падтрымкі" курсу Адміністрацыі краіны.*

*Пра гэта сьведчаць шматлікія факты, што гучалі на сэмінары. "Недзяржаўных" журналістаў не дапускаюць да афіцыйных крыніцаў інфармацыі. Іх перасьледуюць у судах (у прыватнасьці, "Тыднёвік" ахвотна і пасьпешліва разьвітаўся пасьля суду першай інстанцыі зь вядомым магілёўскім патрыётам, аднак калегія абласнога суда днямі вярнула выйграную газэтай справу на новае слуханьне ў раённы суд). Ім не прадастаўляюць памяшканьняў для разьмяшчэньня рэдакцыяў. Іх папярэджваюць і страшчаць. Іх ставяць у няроўныя эканамічныя ўмовы з "дзяржаўнымі" калегамі.*

*Многае робіцца, каб да выбараў незалежныя СМІ панесьлі страты альбо зачыніліся зусім. Ня толькі, дарэчы, у нас. Краіныбраты (ці сёстры?) дзейнічаюць сынхранізавана: у Маскве арыштаваны прэзыдэнт холдзінга "Мэдыя-Мост" У.Гусінскі, які ачольвае некалькі незалежных тэле- і радыёстудыяў, газэтаў і часопісаў.*

*"Тыднёвік Магілёўскі", гарадзкая арганізацыя БАЖ выказваюць яму і сваім расейскім калегам салідарнасьць і маральную падтрымку падчас новага наступу на свабоду слова. Большага мы, на жаль, ня можам. Іншая справа – грамадзкасьць. Аднак яна маўчыць – і там, і ў нас. Добра, каб не давялося шкадаваць пра тое. Нагадаем, што менавіта з расправы над вольнаю прэсай пачаўся ў свой час у нас – рэальны бальшавізм, у Нямеччыне – фашызм.*

*Ад тых часоў да нашых дзён не такая ўжо далёкая адлегласьць...*

***Рэдакцыя "ТМ"***

ГРАМАДЗКАЯ ДУМКА

## Міжраённая нарада па пытаньнях сельскай гаспадаркі

Сацыялягічная лябараторыя "Позірк" пры Крычаўскім грамадзкім аб'яднаньні "Кантактцэнтар" правяла чарговае апытаньне жыхароў у Крычаўскім, Клімавіцкім і Касьцюковіцкім раёнах, якое можна лічыць своеасаблівай нарадай па справах сельскай гаспадаркі. Адметна, што днямі на высокім дзяржаўным узроўні адбылася Рэспубліканская нарада на тую ж тэму. Чытачы, якія знаёмыя зь яе вынікамі, маюць магчымасьць параўнаць меркаваньні і высновы начальства і людзей.

Пытаньне. ***У якім стане, на ваш погляд, знаходзіцца выраб сельгаспрадукцыі ў Беларусі?***

Варыянты адказаў.

***У вельмі добрым:***
- па Касьцюковіцкаму раёну – 0,9%
- па Клімавіцкаму – 0%
- па Крычаўскаму – 0,9%

***У добрым:***
- па Касьцюковіцкаму раёну – 2,8%
- па Клімавіцкаму – 0%
- па Крычаўскаму – 2,6%

***У здавальняючым:***
- па Касьцюковіцкаму раёну – 36,1%
- па Клімавіцкаму – 7,8%
- па Крычаўскаму – 11,5%

***У дрэнным:***
- па Касьцюковіцкаму раёну – 31,5%
- па Клімавіцкаму – 31%
- па Крычаўскаму – 22,2%

***У крызысным:***
- па Касьцюковіцкаму раёну – 25%
- па Клімавіцкаму – 48,8%
- па Крычаўскаму – 51,3%

У завочнай грамадзкай нарадзе ўдзельнічала прапарцыянальная для кожнага раёну колькасьць жыхароў, а ўсяго – 350 чалавек.

***Ад лябараторыі "Позірк" – Лявон СЬВЕЦІК***

ВЫБАРЧЫЯ ФАЛЬСТАРТЫ

## Каму закон ня пісаны

Да пачатку афіцыйнай выбарчай кампаніі яшчэ далёка, на гэты конт пакуль не прынятыя адпаведныя заканадаўчыя рашэньні. Аднак, як бачна, гэта можа стрымліваць толькі тых, хто далёкі ад улады.

Перадвыбарчая валтузьня апошнім часам усё больш і больш захлынвае ўсход Магілёўшчыны, у прыватнасьці, наш раён. Дэпутат, старшыня камісіі па нацыянальнай бясьпецы Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, генэрал-палкоўнік у адстаўцы Ў.Ягораў адвочна распачаў перадвыбарчую кампанію. Ён прысутнічае і выступае на сходах, паседжаньнях і нарадах, якія праходзяць на розных чэрыкаўскіх прадпрыемствах і ў арганізацыях. Ён ладзіць непадрыхтаваныя загадзя прыёмы гараджанаў. Ён сустракаецца з народам у вёсках... Шмат абяцае: дапамагчы, выправіць, завезьці, вырашыць, дастаць, пафарбаваць, падлячыць, паклапаціцца... Ахвотна расказвае пра палітычную сытуацыю ў краіне, пра самаахвярную дэпутацкую працу. Тлумачыць чэрыкаўцам "гнілую сутнасьць" беларускай апазіцыі, якая, у прыватнасьці, хоча зьнізіць планку ўдзелу грамадзянаў у выбарах да 25% узроўню. На думку Ў.Ягорава, гэта трэба, каб "лягчэй трапіць у парлямэнт".

Падчас візыту ў Верамейскае лясьніцтва, якое славіцца фантастычным узроўнем радыяцыі, высокі госьць застаўся вельмі задаволены работамі па стварэньні тут спэцыяльных месцаў для... адпачынку людзей.

***А.К.***

***Меркавалася, што на мінулым тыдні А.Лукашэнка наведае абласны цэнтар, дзе прыме ўдзел ва ўрачыстасьці з нагоды адкрыцьця Лядовага палацу. Гэта сапраўды планавалася, аднак не адбылося: перанесена ці не на восень. Таму выбачаемся перад чытачамі за сваю няспраўджаную дасьведчанасьць. Аднак зьвяртаем увагу на тое, што прызначыць і адмяніць, паабяцаць і не зрабіць, загадаць і ня выканаць... – ёсьць адметным стылем працы ўлады на ўсіх узроўнях.***



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

У Магілёве пачалі прадаваць маёмасьць, што належала былому міністру сельскай гаспадаркі, а цяпер вязьню Васілю Лявонаву. Яшчэ не забылася вядомая гісторыя, як заходнія дыпляматычныя прадстаўніцтвы выкупілі дабро, аднятае ў іншага вядомага сядзельца Васіля Старавойтава, колішняга старшыні калгаса. Дык, магчыма з мэтаю пазьбегнуць такога скандалу, продаж лявонаўскага майна быў распачаты раней, чым пра гэта стала шырока вядома. Сваякі Лявонава ня здолелі выкупіць хоць нешта зь ягоных рэчаў. Хоць і няшмат чаго там было. Самае каштоўнае – лецішча ў Круглянскім раёне. Агульны кошт маёмасьці ацэнены ў чатыры з паловай тысячы даляраў. Сума вялікая, але ўлічым, што цяперашнія буйныя магілёўскія чыноўнікі маюць нашмат больш, ды й лецішчы не ў круглянскай глухамані, а часьцяком і ў абласным цэнтры альбо нават на беразе Менскага мора. Нават на гэтым прыкладзе бачна, што мінулы судовы працэс – помста ўсяго нашага чынавенства Лявонаву, які, хоць і належаў да гэтага ж "саслоўя", аднак быў іншым, і не хаваў гэтага.

У чарговы раз узьнялася праблема зарплатнай запазычанасьці. Настаўнікі былі вымушаныя пайсьці на лета без заробку. Іхнае начальства афіцыйна паведаміла, што зараз людзі нешта атрымаюць, але ня ўсе ды ня ўсё. Настаўнікі дадаліся да вялікага атраду працоўных, што замест грошай маюць – тэлепрамовы прэзыдэнта з абяцанкамі лепшага жыцьця. Да слова, агульная сума запазычанасьці па зарплаце ў вобласьці перавысіла 2,5 мільярда рублёў. Некаторыя працаўнікі апошнім разам чакалі на грошы ля вакенцаў касаў яшчэ ў студзені.

Гісторыя з кішэчнымі інфэкцыямі й эпідэміяй захворваньняў займела на мінулым тыдні лягічны працяг. Стала вядома, што знайшлі вінаватага. Аказваецца, зараз прынёс той чалавек, які працуе на малочным камбінаце і ўдзельнічае ў вырабе малака. Як гэта сталася магчымым, будзе разьбірацца напэўна пракуратура. Але мяне хвалюе ня толькі гэта. Раз за разам мы сутыкаемся з тым, як парушаецца ў розных галінах прамысловасьці тэхналёгія. Гэта адбываецца з агульнага крызысу, бо развальваецца абсталяваньне, няма грошай на яго абнаўленьне, на навучаньне людзей, на кантроль за бясьпекай. Гэта ж усё – інвэстыцыі. Няма іх, і ня можна адпавядаць высокім стандартам. А нам у такім выпадку наканаваная сумная роля рэгістратараў падобных выпадкаў ды іх ахвяраў.

Як сьведчыць статыстычная даведка, у вобласьці пагаршаецца дэмаграфічнае становішча. З пачатку года нарадзілася 2650 чалавек. І гэта амаль на 200 чалавек меней за такі ж час летась. У той жа момант расьце колькасьць памерлых, а што яшчэ больш турбуе – расьце колькасьць скасаваных шлюбаў (1525 разводаў супраць 1523 шлюбаў). Яшчэ крыху цяперашняга жыцьця, і жыцьця ня будзе. Ды й хіба ж сёньня – гэта жыцьцё?

У вобласьці не хапае грошай. У падобнай фразе няма для нас нічога дзіўнага. Таму ня будзем зьдзіўляцца таму, па што паведаміла абласная ўлада днямі: сабрана мала падаткаў – менш, чым чакалі. Гэта значыць, што мясцовыя прадпрыемствы не аддалі ўсё, што ад іх патрабуюць. Сярод найвялікшых парушальнікаў найбуйныя прадпрыемствы, ад МАЗу і "Строммашу" да Бабруйскага "Фандоку" і Клімавіцкага лікёра-гарэлачнага. Агульная іхная запазычанасьць – 2,2 мільярды. Улады, як заўжды, лаялі кіраўніцтва тых прадпрыемстваў. Але ж дырэктараў-прамыслоўцаў ужо даўно паставілі ў такое "цікавае" становішча, калі проста сорамна абвінавачваць іх у нечым, акрамя адсутнасьці грамадзянскай мужнасьці.

Урад выдаткоўвае Шклоўскаму раёну амаль 100 мільёнаў рублёў. Нагадаю, што да дэнамінацыі гэта значыла 1 трыльён! Аказваецца, тыя аўральныя працы, што ўвесь мінулы год вяла ўся краіна паператварэньні райцэнтру ў лукашэнкаўска-пацёмкінскую "дзяржаўную", пацягнулі зь бюджэту яшчэ больш грошай, чым раней згадвалася. Ці хопіць новых мільёнаў-трыльёнаў, мы ня ведаем. Пры цяперашнім ладзе беларускага жыцьця гэтага, бадай, ня ведае ніхто...

У горадзе Калінінградзе (Расея) тамтэйшыя сьведамыя беларусы заарганізаваліся ў нацыянальна-культурную аўтаномію (НКА). Каля 10 адсоткаў усяго жыхарства гэтага рэгіёну сёньня афіцыйна ўважаюць сябе за беларусаў. На ўстаноўчай канфэрэнцыі НКА беларускае зямляцтва абвесьціла намер саўдзельнічаць у абароне нацыянальна-культурных інтарэсаў беларусаў і разьвіцьці культуры сваёй Бацькаўшчыны. Хуткім часам беларуская дыяспара мяркуе заснаваць некалькі школаў і факультэтаў па вывучэньню мовы, гісторыі й культуры Беларусі, а таксама спрыяць усталяваньню стасункаў паміж тамтэйшымі бізнэсоўцамі-беларусамі й іхнімі калегамі на Бацькаўшчыне. Падзякуем суайчыньнікам!

*Да сустрэчы, Сымон Глазштэйн.*

### МЕНСКІ САММІТ: МЕРКАВАНЬНЕ АНАЛІТЫКАЎ

# Братні прагматызм альбо Пэрспэктывы мытнага саюзу

*Радыё "Свабода" днямі абмяркавала ў простым эфіры вынікі менскай сустрэчы кіраўнікоў 5-ці краінаў СНД, якія жывуць ва ўмовах Мытнага саюзу. Вядучы гутаркі Валянцін ТАРАС запрасіў для гаворкі эканаміста і фінансіста (былога прэм'ера ўраду) Міхаіла ЧЫГІРА, журналістаў-аналітыкаў – расейскага Вячаслава МАКСІМАВА, беларускага Юрыя ДРАКАХРУСТА.*

*Прапануем адаптаваны да "Тыднёвіка" запіс гэтай гутаркі на вартую грамадзкай увагі палітыка-эканамічную тэму.*

**М.Чыгір:** – У мытным саюзе (далей МС – ***заўвага рэд.***) ёсьць дзьве самыя вялікія праблемы: узгадненасьць мытных падаткаў і недапушчальнасьць парушэньняў дамоўленасьцяў. Гэтыя праблемы сёньня, праз 5 гадоў стварэньня МС, ня толькі ня зьменшыліся, але наадварот – узрасьлі. І па гэтай прычыне Расея апошнім часам была вымушаная ўвесьці мытны кантроль на сваёй мяжы з намі, што, канешне, ня вельмі добра адбіваецца на эканамічным супрацоўніцтве паміж краінамі.



Фота IREX

**В.Максімаў:** – Ня вырашана, як сталася зразумелым падчас менскай сустрэчы, і такое пытаньне як стварэньне зоны свабоднага гандлю. Які ж бяз гэтага МС? Дэклярацыя і толькі. Хай сабе нават пры тым, што краіны-удзельніцы абвесьцілі намер надаць свайму МС статус міжнароднага.

**Ю.Дракахруст:** – На мой погляд, у Менску былі прадэманстраваныя тыя ж невыкараняльныя супярэчнасьці паміж краінамі СНД, якія былі й год, і два, і тры таму. І ў прыватнасьці, асабліва гэтыя супярэчнасьці тычацца Расеі. Расея хоча адыгрываць ролю вялікай дзяржавы, асабліва цяпер, з прыходам Пуціна. Але на тое ня мае магчымасьцяў, ня мае рэсурсаў. Ад Расеі на сустрэчы дамагаліся саступкаў у стварэньні зоны свабоднага гандлю. Гэта азначае перанос спагнаньня "падатку на дабаўленую вартасьць" ад таго, хто прадае (як зараз), на таго, хто купляе. Расея пры такім раскладзе, зразумела, губляла б велізарныя грошы на продажы сваіх газу і нафты ў краіны МС. А набывала б драбязу. Пайсьці на гэта – трэба параўнаць у эканамічным сэнсе і ўзроўнях жыцьця ўсе краіны МС. Да гэтага далёка-далёка...

**М.Чыгір:** – Такое ўражаньне, ды яно так і ёсьць, што замінае найперш Беларусь сваёй адсталасьцю ад патрэбных рэформаў і нежаданьнем увогуле іх праводзіць. Знаю, што, напрыклад, Назарбаеў кожны раз крытыкуе за гэта Лукашэнку. Ведаю, што Ельцын маўчаў. Магчыма, што гэтую "эстафэту" пераняў ягоны пасьлядоўнік. Вось у чым самае вялікае разыходжаньне Беларусі ды іншых краінаў МС і наогул СНГ. Мы, на жаль, выбралі нейкі невядомы яшчэ нікому шлях разьвіцьця. Нагадаю, што ў Беларусі цалкам рэгулююцца цэны на ўсю прадукцыю. Усім вядома, што гэта прывяло сёньня да таго, што ў Беларусі амаль 40% стратных прадпрыемстваў.

**В.Максімаў:** – Усе краіны МС відавочна маюць даволі розныя інтарэсы, нягледзячы на тое, што ўваходзяць у гэтую міждзяржаўную структуру. Аднак жа галоўнае – палітычны акцэнт. На яго відавочна й будзе абапірацца Пуцін у адносінах зь Беларусьсю. І астатнімі таксама. Ёсьць меркаваньне, што менскі саміт спатрэбіўся для таго, каб перашкодзіць азіяцкім сябрам паасобку ўступіць у сусьветную гандлёвую арганізацыю. Адсюль ідзя свайго "міжнароднага статусу", бо тады ад імя ўсіх пяці краінаў МС на міжнароднай арэне будзе выступаць гэты "статус", а ня кожная краіна паасобку.

**М.Чыгір:** – А тым часам, як ужо мы адзначалі, Расея ўвяла на мяжы зь Беларусьсю свой мытны кантроль. Таму, зразумела, што Беларусь дапускае парушэньні ў пропуску тавараў да суседкі. Гэты расейскі кантроль можа быць часовым, а можа застацца назаўсёды. Калі гэтак здарыцца, МС вымушаны будзе сканаць. Але я думаю, што гэтага ня здарыцца, кантроль будзе адменены ў сувязі з тым, што Беларусь выправіцца. Хаця як будзе насамрэч, сказаць ніхто зараз ня зможа. Ясна толькі, што прагрэсу ў будаўніцтве агульнай эканамічнай прасторы ў межах краінаў МС у Менску не адбылося. Непаразуменьні, супярэчлівасьці засталіся. Таму і больш гаварылі пра калектыўную бясьпеку, чым пра эканоміку. "Палітыка" ня першы раз пераважыла. Тое ж, дарэчы, адбываецца з саюзам дзьвюх краінаў: словы ёсьць, справаў – няма.

**В.Максімаў:** – Паводле афіцыйных зьвестак нашага Мытнага камітэту, абкладаньня падаткамі пазьбягаюць ня менш як 30% "чалночных" тавараў. Дзе тут МС? Пытаньне, зразумела, рытарычнае. Так што братняга прагматызму нешта не відаць.

**Ю.Дракахруст:** – Гэты прагматызм існуе і будзе існаваць. Тут дзьве часткі. Прагматызм – гэта частка эканамічная. Братні – палітычная. А паміж намі і Расеяй ці ня ўсё тлумачыцца менавіта палітыкай. На адзіную Беларусь у Расеі грошай хапае. Я мяркую, што калі, напрыклад, будзе нейкае абвастрэньне палітычнае сытуацыі ў Расеі, альбо паміж Захадам і Расеяй, і ёй спатрэбіцца дапамога (няхай сабе нават маральна-псыхалягічная) – вось тады і спрацуе "братні" складнік прагматызму. Як гэта, дарэчы, ужо здаралася. Пакуль жа ясна, што ў Менску Пуцін перамог Лукашэнку, ды й усіх. Выстаяў, пажывіцца за кошт Расеі магчымасьці нікому ня даў. Выказаў новую ідэю: міжнароднага статусу МС. А наш "прасіцель" застаўся пры сваіх.



Фота IREX

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...З КЛІМАВІЧАЎ



***Невялічкія, проста мізэрныя заробкі значнай часткі насельніцтва Беларусі ўжо нікога не зьдзіўляюць.*** Урэшце рэшт, якія яшчэ тут зробіш высновы, калі людзі маўкліва чакаюць нейкага цуду ці палёгкі ў жыцьці. Больш уражваюць адносіны ўладаў да маўклівых закладнікаў сваіх эканамічных эксьпэрымэнтаў. Вось у клімавіцкай раённай газэце зьявіўся пералік тых, хто затрымлівае аплату камунальных паслуг. Сьпіс зьмяшчае 40 прозьвішчаў і адрасы парушальнікаў.

Няўжо існуе неабходнасьць у абнародваньні гэтых зьвестак? Характэрна, што кожны другі неплацельшчык завінаваціў дзяржаве ўсяго па 6-7 тысячаў рублёў. Ці то ў нас дзяржава такая скваплівая, ці то людзі зусім пагалелі...

*Сяржук АРЖАНЦАЎ*

### ...З АСІПОВІЧАЎ

***У сярэдзіне траўня помнікі, парканы і шыбы гораду зазіхацелі чырвонымі "калавароткамі" РНЕ.*** Улёткі з расейскаю свастыкай "аздаблялі" нават самыя непрыгодныя месцы для рэкламы. Трэба заўважыць, што беларускія ўлёткі кшталту "Маршу Свабоды" ці "Чарнобыльскага Шляху" зьнікалі ў нас са сьценаў нашмат хутчэй за фашыстоўскія заклікі. Актывісты ТБМу пазаклейвалі былі ганебныя "калавароты" шыльдачкамі з запрашэньнямі на сустрэчу са знакамітым беларускім паэтам і грамадзкім дзеячам Генадзем Бураўкіным (яна адбылася 18 траўня). Аднак раніцою наступнага дня ўсе ТБМаўскія аб'явы былі бязьлітасна сарваныя. Мабыць, гэта было справаю ўсё тых жа фашыстоўскіх рук...

***Мясцовыя прадпрыемствы запазычыліся за электраэнэргію больш за 150 мільёнаў рублёў.*** На першым месцы тут – камбінат хлебапрадуктаў – 87 мільёнаў. Сярод "герояў" і вядомы чытачам "ТМ" шклозавод "Кастрычнік" – 10,5 мільёнаў. Што тычыцца калгасаў, то тыя ўвогуле ня плоцяць мясцовай электрастанцыі ўжо даволі працяглы час.

***Рашэньнем выканкаму ад 5 чэрвеня ўсе ягоныя аддзелы, уключна з аддзеламі адукацыі й культуры, былі кінутыя на барацьбу з палыхаючым торфам.*** Неабыякавыя да стану экалёгіі людзі мяркуюць, што сапраўды Асіповічына апынулася на мяжы экалягічнае катастрофы: тарфяныя пажары штодзень ахопліваюць усё новыя мясцовасьці. Аднак некаторыя працаўнікі вышэйназваных аддзелаў выканкаму адмовіліся выконваць распараджэньне начальства й зьявіліся на працу апранутымі ў цывільнае, нават прыгожае адзеньне. Усіх адступнікаў чакае немінучае пакараньне.

*Мікалай ТАМАШОЎ*

### ...З БАБРУЙСКУ



***Ці ведаеце вы, што на тэрыторыі Савецкага Саюзу было 2000 помнікаў Леніну?*** Зь іх 502 знаходзілася ў БССР. Уражвае? Колькі помнікаў Леніну ў Бабруйску, вы можаце палічыць самі. Толькі ў цэнтры горада – 6. Дадайце сюды такіх нашых "землякоў" як танк Бахарава ці каня Раманоўскага. А вось помніка нашым сапраўдным землякам у горадзе няма. Хіба толькі помнік В.Дуніну-Марцынкевічу ля тэатра...

Таксама вельмі сорамна, што ў горадзе дасюль няма памятнага знака бабруйскаму народнаму доктару Уладзімеру Марзону, унёсак якога ў жыцьцё гараджанаў і гісторыю места – велізарны.

*Тацяна КОПЕЦ*

### ...З ГОРАК



***Цяпер у нас ёсьць некалькі амаль што прафэсійных студэнтаў-журналістаў.*** Нядаўна міжнародная арганізацыя IDEE ладзіла курсы па падрыхтоўцы незалежных спэцыялістаў у гэтай галіне. Пры падтрымцы Горацкага Інфармацыйнага Цэнтру некалькі нашых студэнтаў трапілі на гэтыя курсы й атрымалі дыплёмы. Таксама некалькі хлопцаў атрымалі грунтоўную падрыхтоўку амэрыканскай кампаніі Counterpart па маркетынгу.

***У кнігарнях горада няма ніводнай кнігі на беларускай мове.*** Няма ні Я.Коласа, ні Я.Купалы, ні В.Быкава, ні Ў.Караткевіча. Але вельмі шмат кніг на расейскай мове, кшталту "Генерал Лебедь", "Машина любви", "Вампиры", "Убийцы"... Ці ня зброя гэта – сапраўдная зброя – супраць нашых дзяцей? Паглядзіце на выбух моладзевай злачыннасьці, паслухайце, аб чым вядуць падлеткі размовы на сваіх тусоўках, зойдзіце ў папулярныя сярод іх ("Парнас" і "Отдых") – і вы ўсё зразумееце. На канцэртах у Горках амаль не пачуеш беларускіх песень. Зьдзяйсьняць такую мэтанакіраваную палітыку могуць толькі акупацыйныя ўлады. Калі мы ўсё гэта моўчкі стрываем – нас папросту хутка не застанецца.

***Толькі адна дзяўчынка на ўвесь горад навучаецца на беларускай мове.*** Яна скончыла першую клясу на "выдатна". За гэты ды іншыя добрыя паказчыкі яе запрасілі на адпачынак у Нямеччыну. Між тым магчымасьцю вучыцца на беларускай мове валодае кожны. Я ўпэўнены, што гэта мова будучыні ў Беларусі, бо гэта лягічна: ува Францыі – француская, у Польшчы – польская, у Расеі – расейская... Бог даў кожнаму народу тэрыторыю пражываньня й мову, і гэты дар належыць ня толькі нам, але й прошлым, а галоўнае – будучым пакаленьням.

***Горкі наведаў акадэмік Радзім Гарэцкі – пляменьнік выдатнага беларускага пісьменьніка Максіма Гарэцкага, імём якога названыя вуліца і музэй у нашым горадзе.*** У гэты ж дзень прайшлі сустрэчы з моладзьдзю й школьнікамі. Вялікае дзякуй за арганізацыю сустрэчы ТБМ! Але загадчык Горацкага аддзелу культуры І.Кузьняцоў не зусім зразумеў, што адбылося. У пэдвучылішчы сп.Гарэцкага чакалі выкладчыкі і навучэнцы, а ў аддзеле культуры не знайшлося 3 літры бэнзіну (кошт іх меншы за пляшку гарэлкі), каб завезьці акадэміка да людзей...

***Нядаўна горацкія ўлады наведалі музэй у вёсцы Маслакі.*** Амаль усё ім там спадабалася, акрамя гістарычнага герба "Пагоня" і нацыянальнага сьцяга колераў Хрыста...

***Некалькі грамадзкіх арганізацыяў і прыватных грамадзянаў Горак*** выказалі жаданьне прыняць удзел у працы Усебеларускага зьезду.

***Як высьветлілася, яшчэ ў красавіку бягучага году да гарадзкога кіраўніцтва прыйшла заява з запрашэньнем баскетбольнай камандзе БДСГА*** прыняць удзел у міжнародным фэстывалі спартыўных гульняў у Бранску (разам з камандамі Украіны й Расеі). Аднак нашае кіраўніцтва вырашыла нават не інфармаваць спартоўцаў аб гэтым ды схавала паперку "пад сукно". Калі ж трэнэр нарэшце даведаўся аб запрашэньні, камандзе адмовілі ў фінансаваньні (хоць арганізатары фэстывалю бралі вялікую частку расходаў на сябе). Нашая каманда была адзінай зь Беларусі, якую выклікалі на гэтыя спаборніцтвы, таму намаганьнямі нашай адміністрацыі міжнародны статус мерапрыемства, якое праводзіцца ўжо 15 гадоў, быў страчаны!

*Віктар КАРАЛЬКОЎ*

### ...З МСЬЦІСЛАВА



***Паводле інфармацыі, агучанай пракурорам раёна В.Трывайла, за чатыры месяцы 2000 года на Мсьціслаўшчыне*** адбылося 168 злачынстваў, што на 40 (!) больш, чым за адпаведны пэрыяд мінулага года.

Аднымі з прычынаў амаль 24% росту злачыннасьці былі названыя ігнараваньне шэрагам прадпрыемстваў і калгасаў раёна мерапрыемстваў па арганізацыі дабраахвотных пажарных дружынаў і камісіяў па садзейнічаньню сям'і і школе, а таксама несвоечасовае ўсталяваньне стэндаў прававой інфармацыі.

*Андрэй КУЗЬМІН*

## БЕЛАПАН для «ТМ»

**ТБМ імя Францішка Скарыны падоўжыла да 15 чэрвеня збор подпісаў за адкрыцьцё Беларускага Нацыянальнага Ўнівэрсытэта.**

Першапачаткова збор подпісаў плянавалася завершыць да 1 чэрвеня. Аднак, як паведаміў старшыня ТБМ Алег Трусаў, пасля апублікаваньня праекта канцэпцыі стварэньня БНУ шмат у якіх беларускіх газэтах, гэтая грамадзкая кампанія прыкметна актывізавалася: у апошнія дні актывісты ТБМ штодзённа зьбіраюць у розных рэгіёнах Беларусі да 500 подпісаў за адкрыцьцё БНУ. У пачатку ліпеня гэтыя подпісы плянуецца перадаць кіраўніцтву краіны. Апрача таго, на той жа час заплянаваныя сустрэчы кіраўнікоў ТБМ зь міністрам адукацыі В.Стражавым, рэктарам БДУ А.Казуліным і рэктарам БДПУ імя М.Танка Л.Ціханавым. На гэтых сустрэчах будуць абмяркоўвацца пытаньні, датычныя рэалізацыі канцэпцыі БНУ.

●

**На 2-е ліпеня прызначаны ў Менску чарговы Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі.**

Арганізатары атрымалі афіцыйны дазвол на правядзеньне форуму. Асноўным пытаньнем, якое мяркуюць абмяркаваць прадстаўнікі дэмакратычных палітычных партыяў, прафсаюзаў, грамадзкіх арганізацыяў, беларускай творчай інтэлігенцыі – свой магчымы ўдзел у заплянаваных на восень парлямэнцкіх выбарах.

Чакаецца, што дэлегаты Кангрэсу пацьвердзяць сваю вернасьць раней заяўленым да ўлады патрабаваньням, пасьля задавальненьня якіх іхны ўдзел у выбарах стане рэальнасьцю. Найважнейшыя сярод іх – доступ апазыцыі да электронных СМІ, спыненьне палітычнага перасьледу грамадзянаў і ўнясеньне ў Выбарчы Кодэкс неабходных зьменаў, на якіх настойваюць у тым ліку й уплывовыя міжнародныя арганізацыі.

●

**З 12 па 14 чэрвеня ў Вільні ў будынку Сэйма Літоўскай Рэспублікі прайшоў Міжнародны Кангрэс па ацэнцы злачынстваў камунізму.**

Форум быў арганізаваны Аб'яднаньнем змагароў за свабоду і Арганізацыяй былых палітвязьняў і ссыльных Літвы. Беларусь на ім прадстаўлялі сьпікер ВС Беларусі 13-га скліканьня Сямён Шарэцкі, лідэр Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк, вядомы гісторык Ігар Кузьняцоў і прэзыдэнт Аб'яднаньня беларусаў свету "Бацькаўшчына" Радзім Гарэцкі.

На Кангрэс зьехаліся прадстаўнікі 20-ці краінаў сьвету. Ён стаўся пачаткам адмысловага "грамадзкага Нюрнбэргу" над камунізмам. Ягоныя ўдзельнікі – сябры праваабарончых арганізацыяў, грамадзкіх аб'яднаньняў, а таксама юрысты, вучоныя і палітычныя дзеячы – спрабавалі ацаніць маштабы і наступствы камунізму для чалавецтва. Дзеля гэтага быў заснаваны Грамадзкі Міжнародны Віленскі Трыбунал. Сьпікер літоўскага Сейма Вітаўтас Ландзбэргіс адзначыў, што галоўная мэта форуму – расказаць праўду аб камунізме і асудзіць самую камуністычную ідэю, каб не дапусьціць паўтарэньня падобнага ў будучыні.

Кангрэс завершыўся масавым шэсьцем антыкамуністаў па цэнтральных вуліцах Вільні.

●

**Стварэньне часовага ўрада ў Польшчы ня зьменіць палітыкі краіны ў дачыненьні да Беларусі й падтрымкі беларускай апазыцыі з польскага боку.**

Пра гэта заявіў старшыня бюро замежных справаў партыі "Акцыя выбарчай салідарнасьці" Марэк Катлярскі на сустрэчы ў Варшаве з прадстаўніком АГП. На ёй абмяркоўваліся пытаньні супрацоўніцтва новага складу польскага ўраду з афіцыйным Менскам і беларускай апазыцыяй. М.Катлярскі выказаў перакананьне, што польска-беларускае супрацоўніцтва ў межах падтрымкі палітычнай апазыцыі будзе прыярытэтны пазыцыяй замежнай палітыкі польскага ўраду. "Мы праяўляем вялікую ўвагу да праблемы парушэньня правоў чалавека ў Беларусі, – падкрэсьліў М.Катлярскі. – Стаўленьне новага ўраду да афіцыйнага Менску ня будзе перагледжанае".

●

**Сустаршыня Камісіі па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Эўропе Кангрэса ЗША, сэнатар Бэн Кэмбэл заклікаў дзяржаўнага сакратара ЗША Мадлен Олбрайт зрабіць усе магчымыя крокі для забесьпячэньня асабістай бясьпекі шэрагу беларускіх апазыцыянэраў.**

Ён меў на ўвазе Вінцука Вячорку, Анатоля Лябедзьку, Зьміцера Бандарэнку і Паўла Жука, якія наведалі ЗША напрыканцы траўня. Бо сэнатар даведаўся, што А.Лукашэнка падчас выступу перад удзельнікамі "грамадзка-палітычнага дыялёгу" абвінавадзіў прадстаўнікоў "радыкальнай апазыцыі" у тым, што яны просяць грошы за акіянам на зьвяржэньне ўлады. "Такога роду пагрозы гучалі з вуснаў Лукашэнкі перад зьнікненьнем аднаго зь лідэраў апазыцыі летась", – адзначаецца ў лісьце сэнатара Кэмбэла.

Сэнатар таксама заклікаў кіраўніцу Дзяржаўнага дэпартамэнта забясьпечыць выдаткаваньне сродкаў для падтрыманьня праграмаў разьвіцьця СМІ, правоў чалавека, грамадзянскай супольнасьці, незалежных прафсаюзаў і дэмакратычнай апазыцыі ў Беларусі. Да гэтага заклiку далучыліся іншыя ўплывовыя сэнатары, старшыні розных камітэтаў Кангрэсу – Джэсі Хэлмс, Джон Маккэйн і Рычард Дурбін.

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

